*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 36 (524) 12 ВЕРАСНЯ 2001 г.

## *Шляхі вялі ў Мсціслаў*



Помнік Пятру Мсціслаўцу ў Мсціславе

Ад Менска да Мсціслава праз Старыя Дарогі, Слуцк, Бабруйск, Чэрыкаў, Рагачоў, Слаўгарад і Крычаў праехала ў складзе навукова-творчай экспедыцыі "Дарога да святыняў" сябра рады ТБМ, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава.

-- Самае важнае для мяне было ў тым, што паўсюдна – у храмах, палацах культуры і школах – гучала беларуская мова. На ёй гаварыў пратаіярэй, кандыдат багаслоўскіх навук а. Сергій Гардун, дырэктар Інстытута мовазнаўства Аляксандр Падлужны, навукоўцы і пісьменнікі, -- адказала нашаму карэспандэнту Вольга Міхайлаўна. – Мы выступалі перад людзьмі, прыгнечанымі нягодамі і радыяцыяй, і я бачыла, як святлелі іхнія вочы. У Слаўгарадзе, у царкве, якую аднаўлялі прыхаджане разам са святаром, а. Міхалам Мядзёлкам (ён не родзіч славутай Паўліны Мядзёлкі, але ведае яе з дзяцінства і не раз бываў у ейным доме), са мной доўга гаварыла жанчына. Яна чытае беларускую літаратуру, ведае напамяць творы многіх пісьменнікаў, і для яе было важна, што вось тут, побач – жывыя творцы, што яна можа пагаварыць аб тым, што яе хвалюе. А хвалюе, апроч усяго іншага, і становішча з нашай мовай, бо яна з тых беларусаў, якія добра ўсведамляюць, што страта мовы аўтаматычна вядзе да страты нацыянальнай дзяржавы. А яшчэ важна было, што ў выступленнях нашых гучалі імёны людзей, якія стваралі і ствараюць свой духоўны подзвіг на Магілёўшчыне, і, ў прыватнасці, на Мсціслаўшчыне – аўтара славутага слоўніка І. Насовіча, пісьменніка Э. Ялугіна, аўтара аповесці "Мсціслаўцаў посах", славутага Ул. Караткевіча, які напісаў адну з першых краязнаўчых кніг з глыбокім пранікненнем ў гісторыю, якая так і называецца "Мсціслаў". Дарэчы было узгадваць і старшыню ТБМ Алега Трусава, ураджэнца Мсціслава, чые кнігі прысвечаныя здабыткам майстроў роднай зямлі і чый выдатны матэрыял аб гэтым усе мы чыталі нядаўна ў "Родным слове".

У экспедыцыі прынялі ўдзел і іншыя пісьменнікі – Ніна Загорская, Іван Чарота, Міхась Кенька, а таксама дырэктар Інстытута гуманітарных і экалагічных тэхналогій пры Міжнароднай Акадэміі інфармацыйных тэхналогій Ягор Фядзюшын, супрацоўнікі Дзяржкамдруку і Міністэрства асветы Беларусі.

***Наш. кар.***

2-га верасня ў Мсціславе прайшоў **"Дзень беларускага пісьменства і друку"**. У праграме свята:

Літургія і хрэсны ход з Непагаснай Лампадай з Дабрадатным Агнём ад Труны Хрыстовай з нагоды Дня беларускага пісьменства (Сабор Святога Дабравернага князя Аляксандра Неўскага).

"Ад нашых дзён да часоў перш аасветнікаў" – мастацка-гістарычнае прадстаўленне.

Кульмінацыяй свята стала адкрыццё помніка Пятру Мсціслаўцу на Цэнтральнай плошчы.

Прымала гасцей і Літаратурная гасцёўня: сустрэчы з беларускімі і замежнымі літаратарамі на той жа Цэнтральнай плошча.

Фестываль беларускай кнігі і прэсы ўключаў

- адкрыццё выставы фатографа газеты "Звязда" Анатоля Клешчука "Беларусь – зямля святая";
- прэзентацыі кніг і перыядычных выданняў;
- фініш міжнароднай гісторыка-спартыўнай велаэкспедыцыі "Праз паўтара стагоддзя" (сумесны праект рэдакцый газет "Звязда", "Народная газета", "Чырвоная змена", "Вечерний Брест", "Tyqodnik Snediecki";
- канцэртныя выступленні прафесійных і самадзейных мастацкіх калектываў .

У Дзіцячым парку прайшло і свята дзіцячай кнігі і прэсы "Скажы дзецям так", у праграме якога былі

- дзіцячы друкарскі цэнтр;
- работа грамадскай прыёмнай для дзяцей;
- спецвыпуск газеты "Галасы маладых";
- прэзентацыі дзіцячаюнацкіх кніг і перыядычных выданняў.

Кірмаш "Мсціслаўскі падворак" у Гарадскім парку прадстаўляў

- горад майстроў;
- выступленні фальклёрных мастацкіх калектываў ;
- аглядныя тэатралізаваныя экскурсіі па гістарычных і памятных мясцінах горада.

Завяршылі свята галаканцэрт майстроў мастацтва і музычны спектакль аб жыцці Ефрасінні Полацкай "Спакуса".

## 9 верасня 2001 года адбыліся выбары **Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь**

Паводле звестак Цэнтральнай выбарчай камісіі пераканаўчую перамогу ўжо ў першым туры атрымаў

# Аляксандр Лукашэнка

але глабальныя парушэнні дапушчаныя ўладамі пры правядзенні перадвыбарчай кампаніі і арганізацыі выбараў ставяць пад пытанне прызнанне іх вынікаў урадамі і дэмакратычнай грамадскасцю свету

***Працоўному калектыву і вучням***
***Беларуска-славянскай гімназіі № 36 імя Івана Мележа***

***Паважаныя педагогі і мілыя дзеці!***

*Таварыствы беларускай мовы імя Францішка Скарыны ад шчырага сэрца віншуе вас з пачаткам новага навучальнага года.*

*Надыходзіць эра высокаадукаванага, інтэлектуальнага чалавека, якому выпадзе гонар будаваць, жыць і працаваць у незалежнай і квітнеючай Беларусі. Мяркуем, што Вы падзяляеце нашы погляды на тое, што толькі грунтоўна авалодаўшы ведамі, можна наладзіць годнае жыццё. Але адных ведаў не дастаткова. Трэба любіць сваю краіну, свой народ і родную мову. Наша глыбокае перакананне – толькі шануючы, зберагаючы і памнажаючы набыткі свайго народа, у тым ліку культурнай спадчыны, можна спакойна і смела глядзець у будучыню. Спадзяёмся, што ў гэты няпросты для нашай мовы час вы захаваеце ў сценах вашай гімназіі мілагучнасць і пяшчотнасць роднай мовы, яе крынічную празрыстасць і мяккую ўтульнасць. Упэўнены, што з кожным выпускам вашай навучальнай установы наша краіна будзе багацець шчырымі дочкамі і сынамі Беларусі.*

*Зычым Вам выдатных поспехаў у пачэснай выкладчыцкай працы і навучанні.*

***Старшыня ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны" Алег Трусаў.***

**Спадару Генадзю Бураўкіну**

**Шаноўны Генадзь Мікалаевіч!**



Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны дасылае Вам шчырыя віншаванні з 65-годдзем з дня народзінаў з удзячнасцю за вернасць матчынаму слову, роднай зямлі, беларушчыне.

Мы памятаем, як у складаны для Таварыства час Вы сталі на чале нашай арганізацыі і самаахвярна прынялі на свае плечы цяжар былых і новых праблемаў. Разам з намі Вы мужна перажывалі арганізацыйны разрух, фінансавы заняпад, горыч выгнання, адсутнасць жытла ТБМ. Вашая ўпэўненасць у перамозе падтрымлівала нас і натхняла на стваральную працу. Дзякуючы Вашаму таленту паэта і арганізатара, палітыка і педагога Таварыства сягнула новых вышынь. Сёння ТБМ – адна з найбольш уплывовых адраджэнцкіх арганізацый.

Зычым Вам, дарагі спадар Генадзь, на шляху служэння роднай Беларусі магутнасці і гарту мастакоўскага пяра, цярпення і веры ў здабыванні волі, здароўя і шанцавання. Хай шчаслівa пачуваецца Вам у коле блізкіх, родных, знаёмых ды сяброў.

Заўсёды з Вамі.

Сябры Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

28.08.2001 г.

# Як ТБМ і ЦВК мову выбіралі

Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў
220010, г. Мінск, вул. Савецкая, 11 Дом Урада тэл/факс: 227-19-03 E-mail: centrizb@pmrb.gov.by

Центральная комиссия Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов
220010, г. Минск, ул. Советская, 11 Дом Правительства тел/факс: 227-19-03 E-mail: centrizb@pmrb.gov.by

№ 487/01-7 ад 17.08.2001 г.
на № 427 ад 10.08.2001 г.

**Старшыні грамадскага аб'яднання Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны Трусаву А. А.**

**Паважаны Алег Анатольевіч!**

На Ваш № 427 ад 10.08.2001 г. паведамляем, што Выбарчым кодэксам Рэспублікі Беларусь не прадугледжана публікаванне Цэнтральнай камісіяй Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў звестак пра склад участковых камісій.

Наконт запрашэнняў насельніцтву прыйсці на выбарчыя ўчасткі паведамляем наступнае.

Існуе форма паштоўкі-паведамлення, адобраная Цэнтральнай камісіяй у якасці прыкладнай. Калі заказ на дакументацыю, пра якую мы вялі размову раней, на паліграфічным прадпрыемстве размяшчала Цэнтральная камісія, то паштоўкі-паведамленні будуць заказваць абласныя і Мінская гарадская камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Сёння дакладна вядома, што ў Гомельскай вобласці выбаршчыкі атрымаюць запрашэнні прыйсці на выбарчыя ўчасткі 9 верасня 2001 г. менавіта на беларускай мове. Настойваць на вырабе запрашэнняў па-беларуску не можа ні Цэнтральная камісія, ні Вы, спадар Трусаў.

**Старшыня камісіі Л. Ярмошына.**

---

*Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"*
*220005, г. Мінск вул. Румянцава, 13, тэл. 213-43-52, 284-85-11, разліковы рахунак № 3015212330014 у Гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка" код 764*

"22" жніўня 2001 г. №

**Спадарыні Л.М. Ярмошынай Старшыні Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах # 11, Савецкая вул. 220010, Менск**

**Шаноўная Лідзія Міхайлаўна!**

Дазвольце выказаць Вам шчырую падзяку за тое, што афіцыйны канверт Вашай паважанай установы ўжо зроблены па-беларуску. Гэтым учынкам Вы несумненна набліжаеце перадвыбарныя абавязкі сп. Лукашэнкі аб будучай роўнасці беларускай і рускай моваў.

Аднак не можам з Вамі пагадзіцца, "што мы не можам настойваць на вырабе запрашэнняў па-беларуску", бо на нашым баку 50 артыкул дзеючай Канстытуцыі і вынікі перапісу насельніцтва 1999 года. Невыпадкова, што Гомельская абласная камісія адной з першых зрабіла запрашэнні для грамадзянаў на выбары па-беларуску, бо менавіта жыхары Гомельшчыны складаюць самы вялікі працэнт беларускамоўных грамадзян нашай краіны.

Паважаная Лідзія Міхайлаўна, звяртаем Вашу ўвагу, што перадвыбарная праграма аднаго з кандыдата ў Прэзідэнты сп. Лукашэнкі надрукаваная ў газетах "Советская Белоруссия" і "Звязда" ўтрымлівае дзевяць каляровых здымкаў і мае памеры значна большыя, чым зацверджаны Вамі аб'ём. Дастаткова толькі параўнаць аб'ём публікацыі праграмы Лукашэнкі з аб'ёмам тэзісаў праграмы сп. Гайдукевіча, якія маюць толькі адзін каляровы здымак.

Спадзяёмся, што зробіце належныя захады, каб забяспечыць роўнасць правоў усіх кандыдатаў у Прэзідэнты перад законам.

З павагай
**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны" Алег Трусаў.**

---

*Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"*
*220005, г. Мінск вул. Румянцава, 13, тэл. 213-43-52, 284-85-11, разліковы рахунак № 3015212330014 у Гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка" код 764*

"04" верасня 2001 г. №

**Спадарыні Л. Ярмошынай Старшыні Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах # 11, Савецкая вул. 220010, Менск**

**Паважаная Лідзія Міхайлаўна!**

Нягледзячы на неаднаразовыя звароты да Вас, а потым да старшыні Мінскай гарадской камісіі, мая сям'я атрымала запрашэнне на выбары, зробленае на той мове, якой мы не карыстаемся ў штодзённым ужытку.

Гэта прамое парушэнне артыкула 50 дзеючай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, і я патрабую даслаць мне запрашэнне на выбары на дзяржаўнай мове тытульнай нацыі Рэспублікі Беларусь.

У тэксце запрашэння таксама свядома недакладна перададзена частка 1 артыкула 55 Выбарчага кодэкса, у якім устаноўлена, што выбаршчык можа прагаласаваць датэрмінова, калі "не мае магчымасці ў дзень выбараў знаходзіцца па месцы свайго жыхарства", таму запіс, зроблены ў запрашэнні, які гучыць так: "Если Вы не будете иметь возможности прийти на участок для голосования в день выборов..." не толькі не адпавядае згаданаму артыкулу, але і ўводзіць у зман выбаршчыкаў. Больш таго, час датэрміновага галасавання як бы незнарок вылучаны тлустым шрыфтам.

Таму прапаную Вам да 9 верасня зрабіць запрашэнні на выбары ў г. Менску на двух дзяржаўных мовах з дакладным тэкстам, які адпавядае літары закона.

У сваю чаргу, ад імя ТБМ выказваю Вам падзяку за надрукаванне плакатаў з біяграфічнымі дадзенымі кандыдатаў у Прэзідэнты Беларусі на тытульнай мове беларускай нацыі.

З павагай,
**Старшыня ТБМ Алег Трусаў.**

P.S. Дадатак на 1 стар.

---

Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў
220010, г. Мінск, вул. Савецкая, 11 Дом Урада тэл/факс: 227-19-03 E-mail: centrizb@pmrb.gov.by

Центральная комиссия Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов
220010, г. Минск, ул. Советская, 11 Дом Правительства тел/факс: 227-19-03 E-mail: centrizb@pmrb.gov.by

№ 583/01-7 ад 06.09.2001 г.
на № 454 ад 04.09.2001 г.

**Старшыні грамадскагааб'яднання Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны Трусаву А. А.**

**Паважаны Алег Анатольевіч!**

На Ваш № 454 ад 4.09.2001 г. паведамляем, што артыкул 50 дзеючай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь гарантуе свабоду выбару мовы зносін, што дало права ўчастковай камісіі звярнуцца да Вас на рускай мове.

Яшчэ раз нагадваем, што форма запрашэння была прыкладнай. Вашу асабістую думку пра тое, што ў запрашэнні недакладна перададзены змест часткі 1 артыкула 53 (не 55, як указана ў Вашым лісце), падзяліць не можам, бо вядома, што чалавек, які не будзе знаходзіцца ў дзень выбараў па месцы жыхарства, можа не мець магчымасці прагаласаваць у гэты дзень, таму яму нагадваюць пра датэрміновае галасаванне. Такім чынам, фармулёўка "калі Вы не будзеце мець магчымасці прыйсці на ўчастак для галасавання ў дзень выбараў" дастаткова зразумела передае сэнс вышэйзгаданай часткі артыкула 53 і падстаў для таго, каб вырабіць дадатковы тыраж паштовак-паведамленняў няма.

А Вам асабіста, спадар Трусаў, і спадарыні Трусавай Е. Т. на той мове, якой Вы карыстаецеся ў штодзённым ужытку, паведамляем, што 9 верасня бягучага года адбудуцца выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Участковая камісія запрашае Вас прыняць удзел у галасаванні на ўчастку для галасавання № 39, які размешчаны па вул. Пляханава, 70 у СШ № 153 з 8 да 20 гадзін. У адпаведнасці з Выбарчым кодэксам Рэспублікі Беларусь Вы можаце прагаласаваць датэрмінова з 4 па 8 верасня бягучага года ўключна з 10 да 14 гадзін і з 16 да 19 гадзін у памяшканні ўчастковай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Пры галасаванні Вы павінны мець пры сабе пашпарт або пасведчанне асобы, якое яго замяняе.

**Старшыня камісіі Л. Ярмошына.**

## Магазін "Акадэмічная кніга" прапануе

Магазін "Акадэмічная кніга" прапануе літаратуру па краязнаўству:

1. **Краўцэвіч А. К.** – археолаг, гісторык-медыевіст, доктар гістарычных навук. Даследуе сярэднявечную гісторыю Беларусі.
   Нарадзіўся ў вёсцы Лупачы Мастоўскага раёна на Гарадзеншчыне. Закончыў гістфак БДУ, аспірантуру Інстытута археалогії АН СССР (г.Масква), дактарантуру БДУ, праходзіў навуковую стажыроўку ў Ягелонскім універсітэце ў Кракаве. З 1999 г. – прафесар Універсітэту імя Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне, філіялу ў Жэшуве. Напісаў восем навуковых і навукова-папулярных кніг, адну з іх мы прапануем:

**Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага.**
Кніга складаецца з аналізу беларускай, польскай, летувійскай, расейскай і інш. гістарыяграфій генезы ВКЛ і аўтарскай версіі ўзнікнення беларуска-літоўскага гаспадарства. Аўтар прыйшоў да высновы, што ўтварэнне названай дзяржавы было праявай і арганічнай часткай буйнейшай з'явы ў гісторыі Беларусі – працэсу балта-славянскіх кантактаў і ацэньвае ВКЛ, як біэтнічнае дзяржаўнае ўтварэнне з дамінаваннем усходнеславянскага элементу.
Кошт кнігі – 3500 рублёў.

2. **Арлоў У., Сагановіч Г. Дзесяць вякоў беларускай гісторыі.** 862-1918 гг. – Вільня: Наша Будучыня, 2001 + 223 с: Іл.
   Кошт на бел. мове – 3600 рублёў.
   На рас. мове – 4500 рублёў.
3. **Арлоў У. Адкуль наш род:** Апавяданні з гісторыі Беларусі для малодшых школьнікаў. 2-е выд., дап. – Вільня: Наша Будучыня, 2000. – 127 с. Кошт – 4800 руб.
4. **Белы А. Хроніка "Белай Русі".** Нарыс гісторыі адной геаграфічнай назвы. – Мн: Энцыклапедыкс, 2000 – 238 с. (Бібліятэка часопіса "Беларускі Гістарычны Агляд"). Кошт – 2960 руб.
5. **Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і Навагародскія перыяды.** Выд. 2-е – Мн: Мастацкая літ-ра, 2001. – 366 с. Кошт - 2084 руб.
6. **Карскі Я. Беларусы.** – Мн: Беларускі кнігазбор, 2001. – 640 с. Кошт – 3817 руб.
7. **Хмяльніцкая Л. Гісторык з Віцебска (жыццяпіс Аляксея Сапунова).** – Мн: Энцыклапедыкс, 2001. – 256 с. (Бібліятэка часопіса "Беларускі Гістарычны Агляд"). Кошт – 2080 руб.
8. **Арлоў У. Сны імператара:** Апавяданні, аповесці, эсэ. – Мн: Маст. Літ-ра, 2001 – 383 с. – (Беларуская проза XX стагоддзя). Кошт – 1807 руб.

Наш адрас: 220012, г. Мінск, пр. Ф.Скарыны, 72.
Тэл. 232-50-43, тэл./факс 232-00-52.

Працуем с 10.00 – 19.00 гадзін.
Субота с 10.00 – 18.00 гадзін.
Нядзеля – выхадны.

Заўсёды рады сустрэчы з вамі.

# Верхні горад з птушынага палёту



Менск сёння. Фота Аляксандра Талочкі, БелТА

## Конкурс школьных і вучнёўскіх газетаў

Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай школы" праводзіць конкурс школьных і вучнёўскіх газет. Да ўдзелу у ім прымаюцца ад рэдкалегіі ці рэдактараў не менш двух асобнікаў выдання за апошнія 5 год (не менш аднаго з іх за 2000 г.). Газеты (брашуры, часопісы і г.д.) могуць мець адвольны фармат і афармленне (ад рукапіснага да кампутарнага). Пры падвядзенні вынікаў конкурсу асноўны прыярытэт будзе надавацца тым выданням, у якіх акрамя добрага афармлення знойдуць належнае асвятленне пытанні краязнаўства, вырашэння надзённых праблемаў сваёй школы, вёскі, раёна.

У кастрычніку аўтарытэтнае журы з ліку вядомых журналістаў моладзевых выданняў, выкладчыкаў Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М. Танка падвядзе вынікі конкурсу і запросіць прадстаўнікоў лепшых газет у Менск, дзе пераможцы будуць узнагароджаны адпаведнымі дыпломамі, а таксама дыктафонамі і фотаапаратамі.

Дасылайце ці прыносьце свае працы да 30 верасня 2001 г. па адрасу:
220085 Менск, пр-т Ракасоўскага, 98. СШ №2 (На конкурс).
Тэл. (017)-2483202 або 2740472.

Удзячны нашым першым канкурсантам за вельмі цікавыя матэрыялы "Малое Палессе", моладзевае выданне Крупшчыны; "Школьная газета", выданне школьнікаў і студэнтаў Гомеля; "Задняпроўе", газеты сярэдняй школы №3 г. Оршы; "Прадслава", выданне віцебскага грамадскага аб'яднання працоўных жанчын і клуба "Прадслава"; "Маладзёжны кур'ер", маладзевы часопіс Крычава.

**Алесь Лозка, прэзідэнт ТБШ.**

## Шаноўныя сябры!

Дзякуй вялікі ўсім, хто ўжо падпісаўся на часопіс "Студэнцкая думка". Колькасць лістоў, якія прыйшлі ў рэдакцыю, пераўзышла нашыя самыя смелыя чаканні.

У пачатку верасня ўсе арганізацыі-сябры Асамблеі атрымаюць у падарунак летні нумар "Студэнцкай думкі", які выйдзе ў свет напрыканцы жніўня.

Падпісацца на часопіс можна з любога месяца, даслаўшы ў рэдакцыю да 10-га чысла запоўнены абанямент і квітанцыю аб аплаце. Кошт падпіскі складае 400 рублёў у месяц.

Паштовы адрас: Менск-30, 220030, а/с 90.
Тэлефон: (017) 213-22-19.
З павагай,
галоўны рэдактар Ірына Віданава.

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

*Шаноўнае спадарства! Ідзе падпіска на газету "Наша слова" на чацвёрты квартал. Цана вырасла нязначна. Мы і толькі мы забяспечым вас усёй інфармацыяй па праблемах беларускай мовы ў нашай краіне. За 902 рублі вы будзеце штотыднёва мець у сваёй хаце самую беларускую газету на Беларусі.*

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

**НАША СЛОВА** (назва выдання)

На 2001 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)
Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|
| | | |

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

**НАША СЛОВА** (назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 902 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На2001 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)
Каму (прозвішча,ініцыялы)





# СТВАРАЦЬ БЕЛАРУСКАМОЎНАЕ АСЯРОДДЗЕ!

*Па тэхнічных прычынах застаўся ненадрукаваным даклад тагачаснага прэзідэнта ЗБС "Бацькаўшчына" акадэміка Радзіма Гарэцкага на VII з'ездзе ТБМ. Разам з тым гэты даклад ўяўляе значную цікавасць, як для сяброў ТБМ, так і для ўсяго беларускага грамадства. Таму мы лічым сваім абавязкам падаць яго.*

Ад імя згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" сардэчна вішную ўдзельнікаў VII чарговага з'езду самай беларускай арганізацыі ў свеце – Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Шчырая падзяка ўсім сябрам ТБМ, бо роля ТБМ ў захаванні і развіцці беларушчыны надзвычайна вялікая. Ужо 12 гадоў ТБМ пільна працуе на галоўным шляху жыцця беларусаў. Перш-наперш хочацца выказаць шчырую падзяку стваральніку і першаму старшыні Таварыства Нілу Гілевічу, які так многа зрабіў на ніве слова беларускага, а як старшыня Камісіі па культуры і адукацыі Вярхоўнага Савета Беларусі – у прыняцці Закона аб мовах і ў наданні беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай мовы. Вялікі дзякуй скажуць усе беларусы свету і старшыням Таварыства – Генадзю Бураўкіну і Алегу Трусаву за іх плённую працу. Асабіста я вельмі рады, што мне задалося ўдзельнічаць у працы Таварыства з першых дзён яго ўтварэння ў якасці сябра рэспубліканскай Рады.

У адносінах да сваёй роднай мовы Беларусь – краіна ўнікальная. Калі ў іншых краінах аналагічныя таварыствы моў працуюць галоўным чынам над удасканаленнем і развіццём роднай мовы, мы вымушаны займацца не толькі гэтымі праблемамі, але значна больш намаганняў траціць на пашырэнне і што асабліва крыўдна на выжыванне беларускай мовы ў беларускім грамадстве.

Беларусы па адносінах да сваёй мовы дзеляцца на розныя катэгорыі. Значная колькасць беларусаў не толькі забыліся на сваю мову, але ўжо і не лічаць сябе беларусамі, а адносяць сябе да рускіх ці палякаў, у лепшым выпадке – да "тутэйшых". Не меншая колькасць беларусаў яшчэ лічаць сябе беларусамі, але мову забыліся зусім ці разумеюць яе і па-беларуску не гавораць. Гэты працэс асіміляцыі надта магутны. Гаўрыла Гарэцкі яшчэ ў канцы 20-х гадоў мінулага стагоддзя апублікаваў працу "Нацыянальныя асаблівасці БССР і беларускага насельніцтва СССР паводле перапісу 1926 г." Ён прыйшоў да вельмі сумнай высновы, што "...беларусы перажываюць працэс асіміляцыі выключнай моцы, які ставіць беларусаў на ўзровень (у гэтых адносінах) да найбольш "някультурных" нацыянальнасцяў СССР, што стаяць на грані ўжо фізічнага змяншэння і вымірання (камчадалы, асцякі і да т.п.)". За савецкі час русіфікацыя насельніцтва СССР была такая моцная, што загінула больш чым 50 моў народаў Саюзу, а многія трапілі ў Чырвоную кнігу. Нядаўна па тэлебачанні паказвалі пра ліваў у Латвіі, якіх засталося 100 чалавек, і якія яшчэ валодаюць гэтай старажытнай мовай угра-фінскай групы. На жаль, у самую Чырвоную кнігу трапіла і беларуская мова. На-ша галоўная задача – выкрасліць з гэтай кнігі мову беларускую.

Ёсць нават такія беларусы, якія прынцыпова выступаюць супраць беларускай мовы і нават ненавідзяць яе (асабліва іх многа сярод тых людзей, якія "пацярпелі" ад мовы, заваліўшы экзамен, атрымаўшы адмоўны імідж на працы і г.д.). Беларус, які ў сваёй большасці па натуры паслухмяны, паважае начальства і стараецца часта браць з яго прыклад, не размаўляе ці імкнецца не размаўляць на роднай мове, бо начальнік так робіць. Нездарма Якуб Колас казаў, што калі начальства ў Беларусі загаворыць па-беларуску, дык і народ будзе размаўляць на беларускай мове.

Многія з беларусаў, асабліва сярод чыноўнікаў, хоць і ведаюць мову, але баяцца беларускую весці размову, бо іх начальнік гаворыць па-руску. Яскрава гэта выступае ў нашым урадзе, палаце, сенаце і наогул ва ўсёй "вертыкалі". На жаль, гэтая плынь моцна захапіла і нашых дырэктараў, рэктараў, кіраўнікоў школ, вышэйшых і сярэдніх навучальных установаў, Акадэміі навук, навуковых інстытутаў, прадпрыемстваў і г.д. Наша краіна ў гэтым плане не толькі ўнікальная, але і абсурдная. Няма больш такой, дзе кіраўнік дзяржавы некалькі разоў зрабіў выступленне па-беларуску, а ў час многіх тысяч бясконцых прамоў і выступленняў беларускія словы гаворыць толькі ў здзеклівым тоне. І многія беларусы не крыўдуюць на гэта, а ўспрымаюць як належнае.

Ёсць беларусы, якія ведаюць сваю мову, але адвыклі ад яе і размаўляюць па-руску, бо ім лягчэй і думаюць яны ўжо на рускай мове.

Шэраг беларусаў, якія па-сапраўднаму любяць сваю мову, адпачываюць душой і сэрцам сярод груп пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў, якія арганізуюць вечары, імпрэзы, выставы і г.д. Некаторыя беларусы так трапятка адносяцца да роднай мовы, што успрымаюць яе, як нешта такое ім блізкае, сардэчнае, амаль інтымнае, што гавораць на ёй толькі сярод такіх жа прыхільнікаў мовы і пераходзяць на рускую ў іншым асяроддзі.

Шмат беларусаў прытрымліваюцца дзвюхмоўя і гавораць па-беларуску ці па-руску ў залежнасці ад таго, на якой мове да іх звярнуліся.

Нарэшце, ёсць вельмі нешматлікая катэгорыя беларусаў, якія ў любым асяроддзі – і ў хаце і ў грамадстве – размаўляюць толькі на беларускай мове.

На жаль, вельмі кароткая беларусізацыя пачатку 90-х гадоў змянілася антыбеларускай палітыкай сучасных улад. Закон аб мовах не выконваецца, нават і сапраўднага дзвюхмоўя няма.. Усе навучальныя ўстановы, тэлебачанне, газеты і іншыя СМІ ўсё больш робяцца рускамоўнымі. Усё разам прывяло да катастрафічнага стану беларускай мовы, калі яе практычна не чуваць на вуліцах гарадоў і нават вёсак. Беларускамоўны беларус у Беларусі адчувае сябе вельмі няўтульна, мусіць горш, чым у рэзервацыі. Таму мае рацыю Сакрат Яновіч у сваім нядаўнім артыкуле.

Але мае рацыю і Алег Трусаў, калі падкрэслівае яшчэ адну дзіўосную якасць беларусаў, якія не глядзячы на такі стан мовы, хочаць лічыць і лічуць сябе беларусамі (81,9% якіх запісалі сябе, хоць і быў пэўны ўціск супраць гэтага), прычым 85,5% для іх родная мова – беларуская. Значыць, жыве беларускасць і любоў да мовы ў многіх беларусаў. Гэтыя лічбы натхняюць. Неабходна стварыць беларускамоўнае асяроддзе. Калі яно па троху будзе пашырацца, будзе і выбух беларускамоўнасці. Адна з галоўных задач ТБМ – ўсюды стварыць такое асяроддзе. У гэтым сэнсе кожнаму сябру ТБМ трэба пачынаць з сябе і старацца вайсці ў тую катэгорыю беларусаў, якія ў Беларусі ўсюды размаўляюць па-беларуску.

Жадаю поспехаў у працы з'езду!

Не дадзім загінуць мове беларускай! Жыве беларуская мова, жыве цудоўная краіна свету – Беларусь!

*РадзімГарэцкі, прэзідэнт ЗБС "Бацькаўшчына".*

Рубрыка: "Даслоўна"

# Беларусь паказвае прыклад Украіне?

***У 6-ым нумары ўкраінскага часопіса "Віче" апублікавана гутарка пісьменніка Анатоля Міхайлэнкі са старшынём таварыства "Просвіта" Паўлам Маўчаном. Падаем без каментароў дзве вытрымкі з гэтага інтэрвію.***

... Цяпер ва Ўкраіне адбываецца паступовая, але няўхільная здача пазіцый. "Беларусізацыя" ідзе ва Ўкраіне нашмат хутчэй, чым у самой Беларусі. Там моцная апазіцыя, а ў нас яна руйнуецца алігархамі...

***Пытанне:** Скажыце, ці не страціла Таварыства ў апошні час сваіх пазіцый у барацьбе за дзяржаўную мову? Зрэшты, спачатку яно нават называлася Таварыствам украінскай мовы.*

**Адказ:** Раз украінская мова стала дзяржаўнай, то не Таварыства, а сама дзяржава мела б пра яе дбаць. Аднак "Просвіта" змагаецца за дзяржаўную мову і цяпер, але мяняецца сітуацыя і метады. Цяпер смешна казаць, што Таварыства можа вырашаць дзяржаўныя пытанні, бо ў незалежнай дзяржаве ёсць структуры, маюць апекавацца дзяржаўнымі праблемамі, а грамадскія арганізацыі павінны выступаць індыкатарамі, весці дыягностыку, падаваць сігналы пра дрэнныя з'явы. Так паўсюль у свеце. У нас жа хочуць, каб усё рабіла "Просвіта" з яе мізэрнымі магчымасцямі. Хіба мы маем месца і свой час на тэлебачанні, хіба ёсць сродкі для выканання нашых праграм? Калісьці сяброўскія складкі былі сур'ёзным фінансаваннем, на пачатку 90-ых гадоў за іх кошт можна было ўтрымваць апарат, плаціць за камунальныя паслугі і выдаваць кнігі. Цяпер грамадскае жыццё паралізавана, на арганізацыі і таварыствы аказваецца моцны ціск, ледзь што – адключаюць тэлефон, святло або высяляюць з памяшкання. Жыццё і дзейнасць "Просвіти" цяпер – зусім не тое, што было ў часы яе апазіцыйнасці.

Але нягледзячы ні на што "Просвіта" робіць нямала. Менавіта наша Таварыства звярталася з пазовам да Данецкай і Харкаўскай абласных радаў у справе скасавання іх рашэнняў адносна надання ў гэтых абласцях расійскай мове статусу дзяржаўнай. **"Просвіта" выдае ў рэгіёнах 14 газет**, а рабіць гэта нярэдка – гераічная справа.

*Падрыхтаваў Сяргей Запрудскі.*

# Чаму беларусы не гавораць па-беларуску?

Сёння мне сапраўды сорамна за сябе, сваіх бацькоў, сваіх сяброў, за ўвесь беларускі народ, калі яго яшчэ можна такім назваць. Чаму мы, беларусы, цураемся сваёй роднай мовы? Чаму мы па сваім жаданні знішчаем яе, робім яе мёртвай?

Я згодная з тым, што сёння існуе шмат перашкод для развіцця нашай мовы, але, маю думку, мы самі будуем гэтыя перашкоды, мы амаль нічога не робім, каб абудзіць, адрадзіць мову. Сёння па пальцах можна пералічыць беларускія газеты, часопісы, а на тэлебачанні і ўвогуле існуе толькі адзін беларускамоўны канал. На вуліцы, у метро, у краме, у навучальных установах, амаль у кожнай хаце – усюды гучыць толькі руская мова. Нават наша ўлада, наш прэзідэнт размаўляюць па-руску. У нашай краіне юрыдычна замацавана ў Канстытуцыі існаванне дзвюх дзяржаўных моў: рускай і беларускай. Мы ўсе цудоўна размаўляем па-руску, але толькі некаторыя з нас могуць свабодна гаварыць па-беларуску.

Чаму амерыканцы гавораць па-амерыканску, італьянцы – па-італьянску, палякі – па-польску, а мы, як сапраўдныя нявольнікі, размаўляем на чужой рускай мове? Вы толькі паслухайце, якія мілагучныя і ласкавыя такія словы, як "матуля", "татачка", "любы", "каханы"! Нашая мова вельмі прыгожая, але мы чамусьці саромеемся яе, як нечага непрыстойнага. Вядомы беларускі паэт Уладзімір Паўлаў з болем і горыччу піша:

*Калі ў Мінску гавораць*
*араб ці індус –*
*Гэта звыкла,*
*як чуць птушанят у расе,*
*"Глядзі – беларус" –*
*На мяне азіраюцца*
*здзіўлена ўсе.*

На жаль, так яно сёння і адбываецца. Гэтая закамплексаванасць закладзена ў нас з даўніх часоў, і каб пазбавіцца яе, спатрэбіцца не адзін год. Калі я спытала сваіх знаёмых, чаму ж яны не размаўляюць па-беларуску, то адказы былі амаль аднолькавыя. На першае месца можна паставіць такі адказ: "Невядома чаму. Мне проста не хочацца і нават сорамна неяк". На другое -- "Усе размаўляюць па-руску, і я таксама размаўляю. Я проста не ведаю беларускую мову, я яе ніколі дасканала не вучыў. У нашай краіне адводзіцца амаль ніякая роля нацыянальнай мове". І на апошняе - - "А мы ўжо прыстасаваліся да карыстання чужой мовай. Амаль увесь час нашая краіна знаходзілася ў палоне, таму і былі русіфікацыя, паланізацыя. І цяпер амаль тое ж самае".

І гэта былі адказы моладзі. Пасля такіх слоў сапраўды становіцца жахліва за будучыню нашай мовы, нашай краіны, нашай нацыі.

На жаль, сённяшняе пакаленне беларусаў недастаткова цікавіцца гістарычнай спадчынай свайго краю. Трэба ведаць, што чалавек, хоча ён таго ці не, звязаны з часам, з гісторыяй свайго народа. А ў глыбіні народнай душы, на ўзроўні геннай памяці захоўваецца код яго шляху. Але каб не адарвацца ад гэтай памяці, трэба чытаць напісаныя за стагоддзі пісьменнікамі і навукоўцамі гэтай зямлі кнігі. Што, напрыклад, ведае сёння малады чалавек пра сваю родную мову? Амаль нічога. А ўсё таму, што няма аніякага стымулу для яе вывучэння, валоданню беларускай мовай у нашай краіне адводзіцца амаль што апошняе месца ў грамадзянскім і сацыяльным жыцці.

Так і атрымліваецца, што мы не ведаем нашу родную мову, мову нашых прадзедаў, таму і не ведаем нашу гісторыю, наша мінулае. А як вядома, без мінулага няма цяперашняга і менавіта няма будучага. Мне вельмі падабаюцца словы рускага педагога Канстанціна Ушынскага: ***"Мова ёсць самая жывая, самая багатая і самая моцная сувязь, якая злучае адыжыўшыя, жывучыя і будучыя пакаленні народа ў адно вялікае, гістарычна жывое цэлае. Калі знікае мова – народа больш няма. "Адыміце мову, і ён ніколі ўжо больш не створыць яе; нават новую радзіму можа стварыць народ, але мову – ніколі; вымерла мова – вымер і народ".***

Хочацца верыць, што наша беларуская мова спатрэбіцца новым пакаленням, народу гэтай зямлі і ўсім добрым людзям, якія жывуць з намі побач. І ўжо кожны з нас зможа гаварыць, горда ўзняўшы галаву: "Я – беларус!"

*Алена Карніцкая, студэнтка ЕГУ.*





# БІТВА ПАД ОРШАЙ

Шмат "белых плямаў" мае беларуская гісторыя. Адна з іх – славутая бітва пад Оршай, што адбылася ў 1514 годзе паміж маскоўскімі войскамі з аднаго боку і аб'яднанымі сіламі Вялікага княства Літоўскага і Польшчы – з другога. І калі пра самую бітву і яе вынікі можна знайсці некалькі сціслых радкоў на старонках нашых падручнікаў і манаграфій, то пра яе мастацкае адлюстраванне беларускія гісторыкі і мастацтвазнаўцы ўвогуле нічога не паведамляюць.

Адным з першых гэты "запавет маўчання" парушыў Уладзімір Караткевіч: ён змясціў у сваёй вядомай кнізе "Зямля пад белымі крыламі" старажытную гравюру (ХУІ ст.), узяўшы яе з "Хронікі Польшчы", выдадзенай ў 1597 годзе Марцінам Бельскім. Другую выяву гэтай падзеі можна ўбачыць у працы Міхася Ткачова "Замки Белоруссии". Ён надрукаваў летапісную рускую мініяцюру, прысвечаную Аршанскай бітве.

Але самы слынны мастацкі твор, на якім бітва пад Оршай адлюстравана найбольш дакладна і трапна, беларускаму чытачу, на жаль, невядомы. У той жа час польскія гісторыкі мастацтва прысвяцілі яму шматлікія публікацыі.

Калісьці "Бітва пад Оршай" належала або аднаму з варшаўскіх кляштараў, або кляштару францысканцаў у Кракаве. Імя аўтара карціны невядома, але большасць даследчыкаў лічаць, што ён з асяроддзя слыннага Кранаха. Мяркуюць, што мастак сам бачыў гэтую бітву, можа, нават браў у ёй удзел. Надта ж дакладна выпісаны мясцовасць і розныя дэталі вайсковага рыштунку. Пра час напісання існуюць розныя меркаванні, але нам здаецца, што найбольш верагоднае Яна Беластоцкага. Ён лічыць, што карціна напісана каля 1520 года і нават пазней.

Варта сказаць колькі слоў пра тую палітычную сітуацыю, якая склалася ва Усходняй Еўропе на пачатку ХУІ ст.

У канцы ХУ – ХУІ ст. адносіны паміж навастворанай Маскоўскай дзяржавай Івана III і Вялікім княствам Літоўскім, Жамойцкім і Рускім вельмі напружанымі. Дыпламатычная барацьба за палітычны ўплыў у Еўропе і за валоданне землямі былой Кіеўскай Русі вылілася ў шматлікія ваенныя канфлікты. У 1512 пачалася чарговая вайна. Паход маскоўскіх войскаў узначаліў сам Васіль III, ініцыятар гэтай вайны. Спачатку гарады на мяжы Вялікага княства Літоўскага (Смаленск, Полацк, Мсціслаў) мужна абараняліся, і вораг адступіў. Але ў 1514 годзе Смаленск быў узяты і войскі вялікага князя маскоўскага рушылі ўглыб краіны, да Друцка і Оршы. На чале рускай арміі былі князь Міхаіл Булгакаў-Голіца і баярын Іван Чаляднін. Насустрач ім выйшла аб'яднанае войска Вялікага княства Літоўскага і Польшчы слыннага ваяра-гетмана Вялікага княства Літоўскага князя Канстанціна Астрожскага. Яго складалі 15 тысяч вершнікаў феадальнага апалчэння Вялікага княства Літоўскага, 14 тысяч польскіх коннікаў, тры тысячы наёмнай польскай пяхоты, а таксама дробныя феадальныя аддзелы з Малой Польшчы і шляхціцы-добраахвотнікі з Вялікай Польшчы (усяго каля 2500 вершнікаў).

Як адзначае рускі гісторык С. Салаўёў, у маскоўскіх ваявод было 80 тысяч войска, а ў князя Астрожскага – не болей за 30 тысяч.

У першых сутычках рускія войскі панеслі значныя страты, і тады ў канцы жніўня 1514 года І.Чаляднін сабраў усю рускую армію разам, перайшоў з ёю на левы бераг Дняпра каля Оршы і стаў тут чакаць ворага, каб нанесці яму паражэнне і скончыць ваенную кампанію. Рускае войска заняло пазіцыю паміж гарадамі Орша і Дуброўна, на рацэ Крапіўна. Там і адбылася самая буйная бітва ў гэтай вайне.

7 верасня атрады Канстанціна Астрожскага наблізіліся да дняпроўскай пераправы. Не жадаючы фарсіраваць раку пад стрэламі маскоўскіх лучнікаў, Астрожскі пераправіў на другі бераг толькі некалькі тысяч вершнікаў, а сам прасунуў свае галоўныя сілы на поўнач, па дарозе на Віцебск, і стаў насупраць вёскі Пашына. Уначы з 7 на 8 верасня праз Дняпро былі пабудаваныя два пантонныя масты, зробленыя са шчыльна заканапачаных і звязаных паміж сабою пустых бочак. Адзін з такіх мастоў мы бачым на пярэднім плане карціны. У глыбіні ледзь відаць абрысы мураванага замка з брамай і дзвюма вежамі. Хутчэй за ўсё гэта самая старажытная выява Аршанскага замка, бо паблізу іншых каменных замкаў не было.

Адначасова і вельмі хутка войска Канстанціна Астрожскага – пяхота, конніца і артылерыя – перайшло праз дняпро і раніцай, каля 9 гадзін, пераправа была скончана. На карціне мы бачым пераправу адной з апошніх вялікіх гармат.

Наперадзе сталі два вялікія палкі кавалерыі на чале з самім Асторжскім і Сампалінскім, паміж імі знаходзілася пяхота. Выяву Астрожскага мастак змясціў у цэнтры карціны, непадалёку ад вялікай гарматы. Гэта сталы, у гадах чалавек, з вялікай барадою, без шапкі, з шабляй у дарагіх похвах.

За перадавым атрадам ішлі два палкі конніцы на чале з князем Юрыем Радзівілам і польскім палкаводцам Янушам Свярчоўскім.

У левай частцы палатна ў руцэ аднаго з вершнікаў, што на кані пераплывае раку, можна разглядзець чырвоны штандар з выявай герба Радзівілаў – трох паляўнічых ражкоў.

На правым і левым крылах размяшчаліся па тры палкі беларуска-літоўскай і польскай конніцы з лёгкім узбраеннем. У кожнага вершніка ў руцэ доўгая дзіда з белым сцяжком пасярэдзіне, уздоўж якога праходзіць адна вузкая чырвоная палоска, якая перакрыжоўваецца бліжэй да дрэўка другой чырвонай палоскай. Такім чынам мы бачым прадвесніка бел-чырвона-белага беларускага нацыянальнага вайскова і гістарычнага сцяга. Гарматы былі пастаўлены на правым флянзе, у лесе. Там жа размяшчалася і пяхота рэзерву.

Маскоўскае войска мела звычайны баявы парадак. У першай лініі, па фронту шырынёю ў 5 км, стаяў полк пярэдняй варты, за ім вялікі полк і палкі левай і правай рукі. (Рускае войска на карціне мы бачым злева, пад белым і светлачырвоным сцягамі). За ім полк тылавой варты. Усе гэтыя палкі былі конныя. Гармат у маскоўскай арміі не было.

Ваявода Чаляднін расцягнуў свае сілы таму, што яны былі ўдвая большыя, чым аб'яднаныя сілы Вялікага княства Літоўскага і Польшчы. Ён хацеў акружыць праціўніка, разбіць яго і скінуць рэшткі разбітых палкоў у Днепр. Але адзінага сапраўднага кіраўніка ў рускіх не было, бо Чаляднін з'яўляўся толькі фармальным галоўнакамандуючым, а кожны з галоўных ваявод камандаваў сваім палком асобна.

Спачатку Астрожскі павёў свае атрады на полк правай рукі ваяводы М. Булгакава-Голіцы і разбіў яго. Чаліднін спрабаваў атакаваць праціўніка палком левай рукі, але атака не атрымалася. Сутыкнуўшыся з асноўным рускм войскам, К. Астрожскі наўмысна стаў адступаць і павёў ворага пад агонь сваіх схаваных у лесе гармат, якія ва ўпор пачалі растрэльваць рускіх вершнікаў.

У гэты крытычны момант сярод маскоўскіх воінаў пачалася паніка – і армія пабегла. Конніца, пасланая князем Астрожскім, каб давяршыць перамогу, знішчыла ўсіх, хто ратаваўся ўцёкамі, а некаторых брала ў палон. Шмат хто патануў у Дняпры і Крапіўне. Загінула каля 40 тысяч чалавек, у палон трапілі галоўныя ваяводы Чаляднін і Булгакаў-Голіца і 8 іншых ваявод.

Бітва пад Оршай у 1514 годзе пакінула глыбокі след у тагачаснай беларускай, украінскай і польскай літаратуры. Так, у Валынскім кароткім летапісе зьмешчана "Пахвала князю Астрожскаму". Засталася і беларуская народная песня пра бітву пад Оршай, якая ўслаўляла пераможцу – князя Канстанціна Астрожскага.

Мы спадзёмся, што ўвядзенне ў навуковы ўжытак каляровай выявы слыннага твора эпохі ранняга Адраджэння – карціны "Бітва пад Оршай" будзе спрыяць далейшаму развіццю гісторыі беларускага мастацтва, а таксама гісторыі матэрыяльнай культуры беларускага народа.

**Анатоль Грыцкевіч,**
**Алег Трусаў.**

# Рыцарская харугва Княства Дайнава



Сёлета Лідская рыцарская харугва "Княства Дайнава" яшчэ з трыма беларускімі харугвамі рэпрэзэнтавала Беларусь на Грунвальдскім полі. Рыцарскі рух у Лідзе развіваецца ўжо не адзін год. Летась харугва ўдзельнічала ў рыцарскім турніры пад Наваградкам.

Да ведама чытачоў "Нашага слова": харугва "Княства Дайнава" цалкам беларускамоўная, і беларуская мова выдатна гучыць і з-пад стальнога забрала рыцарскага шолама і з вуснаў прыгажунь у сярэднявечных строях.



Магістр харугвы Юры Мандрык





№ 36 (524) 12 ВЕРАСНЯ 2001 Наша слова

А. Талерчык

# ЯК МІХАІЛ МУРАЎЁЎ ВЕШАЎ МІХАЛА ВАЛОВІЧА

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

"Содержание рапорта ко мне Вашего Превосходительства от 17 сего мая, я имел счастье лично всеподданейше докладывать Государю Императору в Динабурге.

Его Императорское Величество, удостоив обратить благосклонное внимание свое на быстроту и успешность принятых Вами Милостивый Государь, мер к открытию и изловлению преступного бродяги Волловича и шайки его... Высочайше повелел мне: объявить за сие Вашему Превосходительству и местным Чиновникам отличившимся точным, усердным и деятельным исполнением возложенных на них обязанностей, Всемилостивейшую признательность... Разбойника Михайла Волловича и сообщников его как находившихся в составленной ими шайке и по поимке содержащихся ныне под стражею, так и тех, Помещиков или другого звания лиц, как давших сей шайке приют разрешаю предать немедленно военному Суду, приговор коего с мнением Вашим подлежит представить мне на утверждение.

Между тем благоволите как найскорее сообщить мне сведения: в каких Иностранных землях и сколько времени находился Михайло Волловnatural до настоящего преступного покушения его и в особенности был ли он во Франции?"

Пасля заканчэння следства Мураўёў так і зрабіў, аддаў пад вайскавы суд Валовіча і яго 10 жывых паплечнікаў. Суд доўжыўся 10 дзён, і 9 чэрвеня 1833 года быў агалошаны вырак. Міхала Валовіча як "...здрадніка, валацугу, бунтаўшчыка і кіраўніка ўзброенай банды", а таксама Міхала Песакоўскага за тое, што даваў яму сховішча і дапамагаў у яго справе, прысудзілі да чацвертавання. Л. Панасюка, Т. Васіліцкага, Я. Мартынкевіча, Т. Саўчука, Я. Панасюка, якія дабраахвотна далучыліся да аддзелу, а некаторых ў дадатак і за напад на пошту, вырашана было павесіць. М. Фярадку і Б. Панасюка – да ламання колам. С. Сідаркевіча і А. Лапко прысудзілі да смяротнага пакарання.

Рашэнне суда было накіравана на разгляд каменданта Горадні генерала Казлова. Апошні пагадзіўся з прысудам, але прапанаваў замяніць для Валовіча чацвертаванне на павешанне і змягчыць пакаранні сялянам. Мураўёў, разгледзеўшы прапановы Казлова, палічыў, што "... подсудимые по важности преступления никакого снисхождения не достойны, тем более, что таковым примером необходимо нужно остановить дальнейшее покушение подобных злодеев, прибывших в страну из-за границы. Причем полагаю необходимою мерою, чтобы казнь означенным преступникам произведена была не в одном городе Гродно, но в разных местах сей губернии, а именно: Волловича в Гродне, экономa Пейсаковского в Слониме, а прочих по усмотрению местного начальства. Дабы все жители видели определенное по силе законов наказание не только самим преступником но и тем, кои знали о прибытии в здешний край заграничных бродяг-мятежников, о преступных их замыслах но не донесли, давали им приют и спобобствовали их укрывательству. Употребленные во время поисков и поимки преступника Волловича и его шайки прогонные деньги, по получении отчетов от командировонных чиновников, так, как имение его Волловича еще в прошлом 1832 году по решению Гродненской о мятежниках Комисси конфисковано в казну, взыскать с имений его сообщников давших ему приют. В прочем означеное дело и мое мнение представляю на власть и благоусмотрение вышнего начальства. Г. Гродно, июня 13 дня 1833 г. Генерал-Майор Муравьев".

Амаль месяц спатрэбілася Віленскаму губернатару князю Далгарукаву, каб 12 ліпеня прысуд зацвердзіць канчаткова. Але ён значна змяніў спосаб пакарання ў параўнанні з прызначаным судом. Пэўна, прынародна чацвяртаваць Валовіча, гэта значыць, на вачах у тысячы людзей адсекчы на пласе спачатку рукі і ногі, а потым гэтаму, даходзячаму ад болі акрываўленаму абрубку, адсекчы і галаву, было б мярзотным глядзішчам для набожных гарадзенцаў. Таму чацвяртаванне Валовіча было зменена на павешанне. Хаця павешанне ў Расіі лічылася больш ганебным, чым адсячэнне галавы. Праваслаўная царква да такога пакарання ставілася з агідай і дапускала такую кару, напрыклад, толькі да здраднікаў. Як сцвярджалася ў адной з кніг таго часу: "Русские долгое время затруднялись принять повешение как способ казни, думая, что душа человека повешенного, будучи принуждена выходит из тела через нижний проход, тем оскверняется". Як бачым, гэты аргумент не падзейнічаў на князя Далгарукава, ён аддаў перавагу павешанню.

Песакоўскі, Л. Панасюк, Сайчук, Мартынкевіч, Я.Панасюк, Васіліцкі і Фярадка прыгаварваліся да біцця бізунамі, а пасля пакарання – да высылкі ўсіх у Сібір на катаргу. Б. Панасюк, Лапко і Сідаркевіча прыгаварылі біць розгамі, прагнаўшы па 2-3 разы праз шарэнгу з 500 чалавек, а пасля экзекуцыі Б. Панасюка выслаць у Бабруйскую крэпасць, а Лапко і Сідаркевіча здаць у рэкруты ў сібірскія лінейныя батальёны.

Міхала Валовіча 21 ліпеня (2 жніўня па н.ст.) павесілі ў Горадні за Скідальскаю "заставаю", недалёка ад тагачаснай парахоўні. Як гэта адбывалася, бачна з рапарта Віленскага губернатара Далгарукава ваеннаму міністру графу Чарнышову: "Я имел честь донести Вашему Сиятельству сего месяца 12 числа за № 654 что военносудное дело о преступнике Волловиче и бывших в его шайке девяти человек рассмотрено мною со всей поспешностью и уже конфирмировано.

О приведении в исполнение таковой конфирмации я тогож числа дал предписание Гродненскому гражданскому Губернатору состоящему на правах Военного Губернатора по Городу Гродно Г. Генерал Майору Муравьёву.

Нынеж в дополнение вышеуказанного моего рапорта, для подробнейшего сведения как о степени вины и злонамерениях сих преступников, равно и о мерах определенного каждому наказания, долгом щитаю представить Вашему Сиятельству краткое из означенного дела извлечение, по донесениям, основанным на таковомже Генерал Майора Муравьёва, что казнь Волловича совершена 21 числа сего месяца в г. Гродно со всевозможною торжественностью и на сем позорище были несколько тысяч разного звания народа, при всем том тишина была вполне соблюдена, и столько было все сем поражены, что при столь многочисленном стечении народа решительно все безмолвно смотрели. Сие произвело весьма сильное влияние на умы обывателей, которые наконец видят, что правительство преследуя преступников не стремиться гнусных похвал неблагонамеренных и действуя во всем законно, наказывет злодеев бестрепетно, не тайно но публично, для всеобщего примера. Чтобы не могло быть тайных молений над телом преступника, оное ночью сокрыто и никем не может быщть отыскано".

Па загаду Мураўёва ноччу цела Валовіча было адкапана, таемна перанесена ў закінуты вапнавы кар'ер і закапана так, каб ніхто яго не мог адшукаць. Бо ўжо на Гарадзеншчыне былі выпадкі, калі целы паўстанцаў, растраляных рускімі, таемна ноччу адкопвалі і хавалі на мясцовых могілках ці ў фамільных склепах.

Перад павешаннем Валовіча, на яго вачах, адбывалася жудасная экзекуцыя над часткай яго паплечнікаў. Ён маліў не рабіць такіх здзекаў над імі, бо адчуваў, якія нечалавечыя мукі прыдзецца вынесці пакутнікам.

Пачалі экзекуцыю з тых, хто быў прысуджаны да пакарання розгамі, ці шпіцрутэнамі, бо гэты від пакарання лічыўся слабейшым у параўнанні з біццём бізуном і адбываўся па другім сцэнару. Для гэтага ставілі твар у твар дзве паралельныя шарэнгі салдатаў. Кожны салдат трымаў у руцэ розгу. Выводзілі караемых, агалялі цела да поясу, рукі прывязвалі да штыка ружжа так, каб штык упіраўся ў жывот і караемы не мог ухіліцца ад удараў. За прыклад ружжа карaемага цягнулі два унтэрафіцэры. Пад барабанны бой кожны салдат рабіў з шарэнгі крок наперад, біў розгаю і станавіўся на сваё месца. Пакутнік атрымліваў удары з двух бакоў і столькі, колькі яму было прысуджана. Калі ён страчваў прытомнасць, то давалі панюхаць нашатырнага спірту, і лупцоўка працягвалася.

Біццё бізуном праводзілася на "кабыле". "Кабыла" – гэта дошка даўжынёю больш за чалавечы рост, таўшчынёю каля трох дзюймаў і шырынёю паўаршына. На канцы дошкі – выразка для шыі, а па баках – выразкі для рук. Калі каранага клалі на "кабылу", то ён абхопліваў яе рукамі і ўжо на другім боку рукі звязвалі пасам. Шыя і ногі таксама прывязваліся пасам да дошкі. Тады за справу браўся кат. Яго паводзіны мелі выгляд нейкай абрадавай цырымоніі здзекаў над жывым чалавекам. Ён быў у чырвонай кашулі і плісавых штанах. Трымаў плецены бізун, да кончыка якога быў прывязаны шасцівяршковы сырамятны рэмень таўшчынёю ў алоўак. Ён спачатку адыходзіў ад "кабылы", а потым павольна набліжаўся да яе, высока ўзмахваў бізуном, і тады чуўся свіст ды ляск бізуна аб цела. Быў вызначаны парадак біцця. Спачатку ўдары рабіліся крыж-накрыж, першы з правага пляча па рэбрах пад левы бок, а другі з левага пляча на правы бок. Потым удары кладзіся ўздоўж і ўпоперак спіны. Кат з першага разу глыбока рассякаў бізуном скуру, пасля некалькіх удараў левую рукою сцэджваў з бізуна жменю крыві і страсаў яе на зямлю. Пры першых ударах яшчэ вырываўся глухі стогн у пакутніка, але хутка ён змаўкаў. Тады яго секлі, як мяса. Ужо безпрытомнага яго адвязвалі, давалі панюхаць нашатырнага спірту і адпраўлялі ў турму, дзе некаторыя, моцна збітыя, паміралі на другі ці трэці дзень.

Тыя пакуты і боль, якія давялося перажыць у гэты дзень Валовічу, не зламалі яго. Ён знайшоў сілы прынародна сказаць, што ўсю віну за арганізацыю супраціву рэжыму бярэ на сябе, і заверыў, што спакойна аддае маладое жыццё на алтар Айчыны. А ў сваім лісце да маці, напісаным перад смяротным пакараннем, Валовіч прасіў, каб яна не забылася пра турэмнага дазорцу і ўзнагародзіла яго за тое, што ён прыносіў яму ў турму ежу.

Архіўныя матэрыялы сведчаць, што "сие позорище" з пазбаўленнем жыцця беларускага патрыёта Міхала Валовіча абышлося Расіі ў 17 рублёў, з якіх было заплочана капітану Рэнубергу 1 рубель і 5 капеек за набыццё 18 аршынаў вяроўкі, 3 рублі заплпціці салдатам за ўзвядзенне шыбеніцы, кату Паўлюкоўскаму за работу заплаціці 3 рублі і 1 рубель далі салдатам за закапанне ў зямлю цела Валовіча. Ці не пераплаціла Расія за маладое жыццё палымянага барацьбіта за незалежнасць нашай Бацькаўшчыны?

Даведаўшыся аб зверстве, учыненым Мураўёвым над Валовічам, Іяахім Лялевель пісаў генералу Дзвярніцкаму: "Падлюга, хто зневажае постаць Валовіча ці безнадзейна брэша на яго шляхетнасць. Скажы мне, генерал, якімі кветкамі абсыплем яго труну, якімі слязамі яго обмыем? Ён быў маім вучнем".

Пры Мураўёве было павешана 128 беларускіх патрыётаў, але, менавіта, пасля павешання Міхала Валовіча гэтая мянушка была на ўсё жыццё прыклеена да яго графскага тытула. Выступаючы перад гарадзенскім дваранствам, казаў, што ён не з тых Мураўёвых, якіх вешаюць, а з тых, якія вешаюць. Так стаў ён "Мураўёвым-вешальнікам".

Праз трыццаць гадоў тым жа Мураўёвым і ў такім жа 26-гадовым ўзросце, але не ў Горадні, а ў Вільні быў павешаны Кастусь Каліноўскі, прадаўжальнік справы Валовіча і кіраўнік нацыянальна-вызвольнага руху беларускага народа супраць расійскага панявалення.

У міжваенныя часы, адзначаючы стагоддзе лістападаўскага паўстання 1830 года, тое месца ў Гродне, паміж вуліцамі Лідскай, Белуша і Парахавым завулкам, дзе адбывалася павешанне Валовіча, было названа "Пляцам Валовіча". На радзіме Валовіча ў маёнтку Парэчча побач з царквою быў пастаўлены яму прыгожы белы мармуровы помнік. Помнік яго паплечнікам-сялянам быў пабудаваны ў Шундрах. На жаль, у 1940 годзе ўсё гэта было знішчана і забыта. Уніяцкая царква, якая знаходзілася побач з маёнткам Парэчча, пры нявысветленых абставінах згарэла, а на тым месцы пабудавана каменная праваслаўная "мураўёўка", якую ў савецкія часы ператварылі ў калгасны склад, а потым спалілі. Па сядзібе Валовічаў, абсаджанай некалі ліпамі, нядаўна праклалі магістральны газапровод "Дружба". Сяляне, якія жывуць у навакольных вёсках, пазбаўленыя савецкай уладай уласнай зямлі, за якую змагаліся іх продкі і якія мелі вялікую ласку да яе, цяпер апрацоўваюць яе калектыўна і жывуць у беднаце.

Праўда, 4 лістапада 2000 г. на "Дзяды" слонімскаю спартыўна-патрыятычнаю арганізацыяю каля спаленай парэцкай царквы на ўмоўнай магіле Валовіча быў устаноўлены і асвечаны памятны крыж з надпісам "Ва ўшанаванне памяці беларускага паўстанца Міхала Валовіча (1806-1833) і яго паплечнікаў, якія ахвяравалі сваё жыццё ў барацьбе за вызваленне Беларусі ад расейскага царызму". Але прастаяў гэты крыж толькі месяц. Як не дзіўна, па ініцыятыве мясцовага благачыннага і пры падтрымцы мясцовых улада, ён быў знішчаны. Мураўёўшчына прадаўжае жыць на Беларусі.

Адначасова са справай Валовіча падпалі пад следства і людзі, якія дапамагалі яму, ці ведалі пра яго вяртанне і намеры. Гэта абшарнікі Ваўкавыскага павету Дамянік Аскерка і Францішак Шабанскі, якія абвінавачваліся ў тым, што некаторы час хавалі ў сябе Валовіча; Ізідар Нагумовіч, які лячыў Валовіча; уніяцкі святар парэцкай царквы Марцін Якутовіч, які быццам бы дапамагаў Валовічу харчамі; Язэп Яцкевіч, які быў памочнікам Валовіча. Хаця судовы працэс адбываўся ў розныя дні, на самой справе гэта была адзіная паказальная карна-палітычная акцыя, якая мела на мэце запалохаць мясцовую шляхту і сялянаў у іх патрыятычных памкненнях змагацца з рэакцыйным царскім рэжымам.

*(Заканч. у наст. нумары.)*

# Па Карпілаўцы з Ул. Содалем

Настаўнікі беларускай літаратуры маюць пэўныя цяжкасці пры вывучэнні творчай спадчыны Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага). Выбраныя творы выдадзены асобым зборнікам у 1976, творчасць мала даследавана, няма грунтоўных распрацовак. У прадмове да зборніка І.Чыгрын піша: “Творчасць Ядвігіна Ш. яшчэ патрабуе свайго ўсебаковага вывучэння. Зразумела адно: як пісьменнік ён мае ўсе падставы, каб у гісторыі беларускай літаратуры, у першую чаргу ў гісторыі стаўлення беларускай прозы, яму было адведзена належнае месца. Ён – адзін з першых нашых празаікаў. Заслугі ў яго перад літаратурай немалыя”. А колькі мы ведаем пра асобу Ядвігіна Ш.? Пра мясціны, звязаныя з яго жыццёвым шляхам, напрыклад, Карпілаўку, у якой ён правёў асноўную частку свайго сталага жыцця і дзе напісаў свае асноўныя творы?

У 1997 годзе я была на Лагойшчыне ў Акопах, Харужанцах, праводзіла экскурсію пісьменніца Антаніна Хатэнка, яна ж распавядала і пра Ядвігіна Ш.. Слухаць яе адно задавальненне. Як нечакана і прыемна было атрымаць падарунак – кніжку Ул. Содаля “Карпілаўка”, нястомнага вандроўніка, даследчыка літаратуры, пісьменніка. Здаецца зусім нядаўна вандравалі з кнігамі Ул. Содаля “Свіраны”, “Жупраны”, “Кушляны” па багушэвічавых мясцінах. Нарэшце дачакалася свайго часу Карпілаўка. Спачатку аўтар знаёміць з шляхетным родам Лявіцкіх, “Антосю было дзесяць гадкоў, калі сям’я пераехала ў Карпілаўку... І перад чытачом “малюнак” гэтага таямнічага куточка прыроды: ...З усіх бакоў сядзібу атуляў лес. У нізовіне, у лясных абдымках, бруілася – гаманіла, віхляючы на карнявішчах, ручаінка з крынічкай. З поўначы, як баба – вякавуха, расселася вялізная гара. На самым версе гары – магутны Дуб-Дзядуля. Магутны прысадзісты дуб красаваўся і паблізу гары. Пара дубоў і пры крынічцы.

Непадалёку рознакалерная лугавіна з азярцом. І над усёй гэтай гожасцю і цішай – глыбокая блакітнае неба з белымі ватнымі, нібы ярачкі, хмуркамі, аблачынкамі... У гэтай мясціне, у такой гожасці, нібы ў калысцы, прайшлі юнацкія Антосевы гады. Толькі ў Карпілаўцы ён пачуваў сябе, як кожны Божы Створ, які ведае гнёзды свая. Гэтыя радкі не проста чытаеш, у іх упіваешся, такая сакавітая мова. Гэта паэзія ў прозе, яны мне нагадваюць К. Паўстоўскага: “ Зара – адно з цудоўнейшых слоў рускай мовы...”.

Улетку збіралі зёлкі, іх у Карпілаўцы было шмат, яны паспрыялі ў выбары будучай справы – стаць аптэкарам, чыталі п’есы, ладзілі спектаклі. У Карпілаўку ён прывёз сваю жонку Луцыю Гнатоўскую, тут нарадзілася яго крывіначка – Ванда. Тут А. Лявіцкі зацікавіўся грамадскім і духоўным жыццём свайго краю, тут нарадзіўся ягоны псеўданім - Ядвігін Ш.



Магіла Ядвігіна Ш. Вільня, могілкі Росы, 2001 г. Фота Леакадзіі Мілаш.

Паступова з гаспадарчай мясціны Карпілаўка становіцца духоўнай. Духоўным агніскам, якое трапнае слова падбірае пісьменнік. Знаёмімся далей: так Ядвігін Ш. і яго аднадумцы рыхлілі глебу для стварэння беларускага друку. Карысталіся любой нагодаю, каб толькі пераканаць грамадскасць, што Беларусь хоча мець свой друк на сваёй роднай мове, мае ў ім патрэбу, як і ў хлебе, як і ў паветры... Тут у Карпілаўцы не толькі Ядвігін Ш. напісаў свае лепшыя творы, а і пад уздзеяннем бацькі спрабавала пісаць і дачка Ванда, пасылала ў Вільню ў “Нашу ніву”. Сюды прыязджалі вядомыя пісьменнікі Змітрок Бядуля, Я. Лёсік, М. Багдановіч.

Ванда пасябравала з Зоськай Верас, суседзямі – Луцэвічамі. У Карпілаўцы размяшчаўся дзіцячы прытулак. Далей распавядаецца лёс нашчадкаў А. Лявіцкага.

Ядвігін Ш. памёр ад сухотаў у 1922 годзе, пахаваны на Віленскіх могілках Росы. Сюды не зарастае сцежка, прыязджаюць беларусы з замежжа, вучні віленскай беларускай школы. “Карпілаўка” Ул. Содоля змястоўная, цікавая, карысная не толькі настаўнікам роднай літаратуры, краязнаўцам, тым, хто цікавіцца гісторыяй роднага краю, і проста для шырокага кола чытачоў. Адкрыла для сябе яшчэ адну серыю кніг “Пазнай свой край Беларусь” № 7 “Карпілаўка”.

“Што грошы – былі і няма. А кніжачка – гэта памяць і пра сябе, і пра людзей”, - у ўступным слове прыводзіць словы сваей матулі пісьменнік. Гэта так, толькі жаль, што на выпуск такой каштоўнай кніжкі аўтару трэба шукаць сродкі, потым распаўсюджваць. А якая сёння Карпілаўка Ядвігіна Ш.? ...”Сядзіба Ядвігіна Ш. цяпер экзатычная. Яна нагадвае джунглі. Яе аблюбавалі для сваіх здымак кіношнікі ды тэлевізійнікі... І само імя пісьменнікава ў сталіцы пакуль ніяк не ўшанавана, не ўганаравана. Такая наша памяць. Такая наша ўдзячнасць, аднаму з тых, хто, кажучы Купалавымі словамі, клікаў з цемры да святла”, - канстатуе Ул. Содаль.

Вельмі хацелася б мець такі мастацка-літаратурны зборнік “Карпілаўка”. Як і Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Ядвігін Ш. гэтага варты, ён заслужыў. Вучні нашай школы ўлетку некалькі разоў упарадкоўвалі магілу А. Лявіцкага, узнавілі надпіс.

*Леакадзія Мілаш,*
*г. Вільня*

# Асоба настаўніцы

***“Яго (настаўніка) справа самая цяжкая... Паглядзі, адзін моцны чалавек перад выхаваннем дзіцяці паказвае слабасць. А ён цэлай групе дзяцей дае веды і выхоўвае іх, што можна з гэтым параўнаць!”***
***Алішэр Наваі.***

Адныя і тыя ж дзеці добра сябе паводзяць на ўроках аднаго настаўніка, а на ўроках другога – кепска. У аднаго добра, з ахвотай вучацца, у другога лянуюцца, збягаюць з лекцый. Вядома – асоба настаўніка адыгрывае вялікую ролю. Толькі пры нармальных умовах, у спакойных абставінах настаўнік – вельмі вялікі аўтарытэт у вучняў. Для многіх настаўнік – ідэя, таму і на пытанне “кім хочуць быць”, вучні пачатковых класаў адказваюць з гонарам: “ Настаўнікам!” Усе пералічаныя якасці адносяцца да настаўніцы пачатковых класаў Віленскай беларускай школы імя Фр. Скарыны Алы Шынкевіч. Заўсёды з усмешкай, ветлівая, вытрыманая. Нарадзілася на Дзятлаўшчыне ў пасёлку Казлоўшчына. Пасля дзесяцігодкі закончыла Ваўкавыскае педвучылішча, працавала настаўніцай пачатковых класаў у Ашмянскім раёне. Выйшла замуж у Вільню, тут нарадзілася ў яе два сыны. Як толькі адчынілася беларуская школа ў Вільні сп. Ала прыйшла працаваць. Ужо вучыць і выхоўвае трэці выпуск. Вядома, асоба і педагагічнае майстэрства настаўніцы, яе выключнае ўздзеянне на вучняў пачатковых класаў мела вялікае значэнне і ў выхаванні, і ў адукацыйным працэсе. Таму яе вучаніца Карына Мірашнічэнка напісала лепшае сачыненне “Гартаючы старыя фотаздымкі”. Яно было надрукавана ў літоўскай газеце “Вячэрнія навіны” і беларускай “Голас Радзімы”. А вучаніца Ганна Грасевіч заняла першае месца ў гарадской алімпіядзе па матэматыцы, удзельнічала ў рэспубліканскай, праслаўляючы школу ў Літве. А яшчэ вучні спадарыні Алы не толькі старанна вучацца, а і артысты лялечнага тэатру, якім кіруе ўжо некалькі гадоў Ала Шынкевіч. Яна напісала праграму разам з вучнямі падбірае рэпертуар, робяць дэкарацыі, а лялькі шыюць разам з бацькамі, вучнямі. У спектаклях выкарыстоўваюць розную тэхніку – фланелеграфію, рукавічку, тэатральныя маскі, батлейку. У школе паказвалі “Пшанічны каласок”, “Хутка зіма”, “Як воўк хадзіў калядаваць”, “Пых”, “Хто жыве ў двары?”, “Хто вінаваты?”, “Коцік, пеўнік і ліса”, а за ўдзел у гарадскім конкурсе лялечных тэатраў, спектакль нашых артыстаў “Каток залаты лабок” заняў прызавое месца, атрымалі грамату з гарана, у 2000 г, таксама высока ацэнены спектакль “Цар Ірад”. У працэсе рэпетыцый новага спектаклю ўзнікла назва тэатру “Званочак”. Так вырашылі дзеці, а іх падтрымала настаўніца. Усе вучні класа з ахвотай удзельнічаюць, усе таленавітыя, непасрэдныя, а самыя артыстычныя – Насця Хадункіна, Таня Аўгусціновіч, Ігнасік Паклад.



Настаўніца А. Шынкевіч з юнымі артыстамі “Званочка”, г. Вільня, 2001 г. Фота Леакадзіі Мілаш.

Напрыканцы навучальнага года літоўскае тэлебачанне ў праграме “Віленскі сшытак” паказвала ўрыўкі з спектакля лялечнага тэатру “Званочка”, вучні давалі інтэрвію, і з якім гонарам яны аб’яўлялі: “Кіраўнік лялечнага тэатру старэйшая настаўніца Ала Шынкевіч!” Кожны настаўнік непаўторны, асоба. Алу Шынкевіч любяць вучні, паважаюць бацькі, за парадай звяртаюцца калегі. Яна пастаянна ў пошуках новага, павышае прафесійныя веды не толькі самаадукацыяй, а і паспяхова закончвае Віленскі педагагічны універсітэт факультэт беларускай філалогіі і этнакультуры. У верасні тэатр “Званочак” запрасілі ў Залессе на святкаванне юбілею М. Агінскага. У праграме на новы сезон я прапанавала цудоўную вершаваную казку Генадзя Тумаша “Лісіца з Расохі”, якая ў 2001 годзе выйшла ў выдавецтве “Юнацтва”. Хто ведае, можа атрымаюць запрашэнне і ў сталіцу Беларусі. Спадарыня Ала Шынкевіч узнагароджана граматай Міністэрства адукацыі Беларусі.



З новым навучальным годам віншуюць сп. Алу Шынкевіч вучні і бацькі. Вільня, 2001 г. Фота Л. Мілаш.

Хай будзе Вам шчасціць у жыцці!

*Леакадзія Мілаш,*
*г. Вільня,*
*жнівень.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*
Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 10. 09. 2001 г.
Наклад 5050 асобнікаў. Замова № 2138.
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 302 руб., 3 мес.- 906 руб.
**Кошт у розніцу:** 80 руб.